# ULTIMATE X-MEN

ISSUE 28

ВЯРТАННЕ КАРАЛЯ. ЧАСТКА 2

FINCH & WHITE

MILLAR
FINCH
THIBERT

MARVEL

.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Сучасныя Людзі-Ікс
№28 (2001)
пераклад і афармленне:
Козыраў Сяргей



WWW.MARVEL.COM

# ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ. ДАРТ ВЭЙДЭР

## (НУМАР 1. MARVEL, 2015)




**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**



**Gillen, Larroca, Delgado.** Дзеянне адбываецца пасля падзей «Зорных войн: Эпізод IV: Новая надзея» і першых трох выпускаў комікса «Зорныя войны». Дарт Вэйдэр павінен пакутаваць ад наступстваў яго нздольнасці спыніць Альянс паўстанцаў падчас бітвы пры Явіне, і адпраўляецца на місію, каб весці перамовы з Джаба Хатам . Тым часам Вэйдэр наймае двух паляўнічых за галовамі, каб схапіць Люка Скайуокера і таямнічага агента Імператара.







| Charles Xavier | Scott Summers | Jean Grey | Ororo Munroe | Logan | Kitty Pryde | Hank McCoy | Peter Rasputin |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Professor X | Cyclops | Marvel Girl | Storm | Wolverine | Shadowcat | Beast | Colossus |

# RETURN OF THE KING

## PREVIOUSLY IN ULTIMATE X-MEN & ULTIMATE WAR

Расамаха, Цыклоп, Марвел, Шторм, Звер, Калос і Чалавек-Лёд. Яны - Людзі-ікс, мутанты, аб’яднаныя прафесарам Чарльзам Ксаўе, які навучыў іх кіраваць сваімі неверагоднымі здольнасцямі.

У Запаляр’і Магнета стварае Цытадэль - новы штаб Братэрства Мутантаў. Магнета загадвае сваім паслугачам выкрасці самыя вядомыя творы мастацтва. Ён рыхтуецца да вайны з чалавецтвам і баіцца, што гэтыя неацэнныя экспанаты могуць сапсавацца.

Людзі-ікс вымушаны хавацца. Урад падазрае іх у сувязях з Братэрствам Мутантаў і абʼяўляе іх у міжнародны розшук. Але горш за ўсё тое, што «Абарона» захапіла ў палон лідара Людзей-ікс - прафесара Ксаўе. Застаўшыся без свайго настаўніка, Людзі-ікс знаходзяцца ў поўнай разгубленасці. Яны ня ведаюць, што ім цяпер рабіць і на чыю дапамогу можна разлічваць...



Stan Lee presents:

# ULTIMATE X-MEN

Mark Millar story

pencils David Finch Art Thibert inks

Dave Stewart colors | Chris Eliopoulos letters | Stephanie Moore assistant editor | C.B. Cebulski associate editor

Brian Smith associate editor | Ralph Macchio editor | Joe Quesada editor in chief | Bill Jemas president & inspiration


У ЦЭНТРЫ ЧЫКАГА, СЁННЯ:
DEPOT
RESTAURANT
FAST FOOD
GO CUBBIES!!!
Breakfast & Lunch
BURGERS


Можаш зрабіць радыё грамчэй?
Гэты вядучы заўсёды расказвае што-небудзь пацешнае на трыццаць пятай хвіліне этэра.


Больш пацешна глядзець на гэтых вырадкаў, якія кідаюцца з боку ў бок, быццам хтосьці падпаліў ім астатнія штаны. У мяне ўзнікае жаданне ўзяць самую вялікую бомбу і скінуць ім усім яе на галаву.
Мінулай ноччу я думаў, што гэта мне прыснілася. Быццам я ўзарваў **увесь свет**. Але потым я высвятліў, што проста падглядзеў гэты сон з суседняга пакоя.


Што гэта за ідыёт?
Які-небудзь ляснуты, якому захацелася павялічыць спіс забітых Братэрствам Мутантаў яшчэ на адзін запіс? Выдатна.


Чалавек-Лёд, гэта Калос. Я знайшоў машыну на скрыжаванні Мэдзісан і Кларк.
Сітуацыя пад кантроем.


О, божа!
Што?
Мае тэлепатычныя здольнасць падказваюць, што праз **шэсць секунд** мы будзем валяцца на ходніку!


Хутчэй, трэба выбірацца з машыны!!! **Спяшайцеся!!!**


**Марыя Магдалена!!!**


Інфармацыя не пацвердзілася, Расамаха... Гэтыя два не лятаюць і ня скачуць, як ты меркаваў.
Дарэчы, як справы ў заапарку Лінкольна? Ты знайшоў **самалёт**, да якога яны ехалі?


Так, спадзяюся, што ў іх пілота ёсць супер-здольнасць аднаўляць свой твар пасля збіцця.
Шторм. Гэта Расамаха... Што там наверсе? Ты ўпэўнена, што зможаш правясці **рамонт** самастойна?





Цішэй! Я спрабую сканцэнтравацца. Сабраць навальнічныя хмары вакол двух кварталаў не так проста, як ты лічыш. Гэтага **дастаткова**, каб яны зноў **палюбілі** нас?
Няўжо, пасля таго, як мы схопім гэтых вырадкаў, нам больш не прыйдзецца **хавацца**?




Не магу паверыць!
**Глядзіце**! Там, над будынкам!
Божачкі...




Калі і пасля гэтага мы не зможам даказаць сваю нявінаватасць, тады я ня ведаю, што нам рабіць.
Унутраны голас падказвае, што гэты эпізод стане **першым крокам** да рэабілітацыі Людзей-ікс, сябры.



**СТЭМФАРД, КАНЭКТЫКУТ:**

Апошнія навіны: Людзі-ікс і Братэраства Мутантаў учынілі нападзенне на самую вялікую фінансавую арганізацю Чыкага. Глядзіце рэпартаж з месца падзей...

Такім чынам, апошнія падрабязнасці. Паліцыя заяўляе, што гэта было **сумеснае** нападзенне ў адказ на арышт лідара Людзей-ікс - прафесара **Чарльза Ксаўе**.




Але згодна апошняй інфармацыі Людзі-ікс захапілі сваіх паплечнікаў у палон, спадзяючыся прадухіліць тым самым наступныя **арышты мутантаў**.

Што за подлыя гнюсы! Мала ім, што яны звязаліся з Братэрствам Мутантаў, дык цяпер яны яшчэ і **здрадзілі** сваім сябрам, як толькі запахла палёным.

Спадзяюся, што прэзідэнт зможа пакараць гэтых жывёлін. Я хачу бачыць, як Капітан Амерыка і Тор наб'юць ім пысу.

Генерал **Нік Ф'юры**, як заўсёды, адмовіўся пагадзіцца на іх прашэнне аб амністыі наўзамен купкі байцоў з Братэрства Мутантаў.




Ён запэўнівае нас, што яго **вайна з тэрорам** працягнецца да тых часоў, пакуль Людзі-ікс і іншыя паплечнікі Братэрства Мутантаў не акажуцца за кратамі разам з Хаўерам.


Ну што, ваша ідэя праваліласа?
Гэта няважна, Кіці. Мы паспрабуем яшчэ раз. Адзіны спосаб даказаць, што мы - не паплечнікі Братэрства, гэта бароцца з імі.
Адзіны спосаб заваяваць давер людзей - гэта **нейтралізаваць** Магнета і скончыць раз і назаўжды з гэтым вар'яцкім фарсам.

Але нам патрэбна нармальная база для працы, Генры.
Гэта сховішча можа стаць вельмі **небяспечным**. Мне здаецца, што ў нас значна больш шансаў заставацца незаўважнымі, калі мы схаваемся ў сяброў Шторм у Гарлеме.

Старыя сябры і калегі - будуць першымі, каго яны праверацъ пасля сваякоў. І тады мы вельмі хутка патрапім у турму да прафесара.

Але заставацца тут, з гэтай сям'ёй проста жах. Я ведаю, што Джына ўздзейнічае на іх свядомасць, і яны не заўважаюць нас, але ўсё роўна мне гэта здаецца **скрыўленнем**...
Асабліва, калі іх бацька лічыць, што нікога няма дома, і чухаецца, як шалудзівы. Ці калі ў іх маці выхадны, і да яе прыходзіць вадаправоднік.

Галоўнае, што яны спяць асобна ад нас і не маюць да нас ніякага дачынення, міс Прайд. Усё астатняе - **няважна**.


Джына, як ты?
Са мной усё ў парадку, проста...


О божа, не, не. Са мной не ўсё ў парадку. Канешне, фізічна я ў норме, але пасля гэтай гісторыі з **Феніксам** я адчуваю сябе як вядро з памыямі.


Я ведаю, што ён усё яшчэ **ўнутры мяне**. Я чую, як ён шэпча мне на вуха і расказвае мне пра кожнага з вас тое, што я не хачу ведаць...
...Напрыклад, аб тым, што **здарылася** паміж Цыклопам і Расамахай, калі яны вярталіся з Дзікай зямлі.


Аб чым ты?
А ты як лічыш? Ты ж была там! Ты пажадала ўдзельнічаць у гэтай выратавальнай аперацыі. Ты павінна ведаць, што **там** адбылося.


Мабыць Расамаха **дазволіў** загінуць Цыклопы, каб вярнуцца і быць **разам са мной**?

ЛАГЕР «ФАКТАР ІКС», КУБА:
Турма «Абароны», створаная для ўтрымання падазраваных у распальванні генетычнай вайны.
Прафесар Ксаўе?
Я прашу прабачэнне за тое, што мы заблакіравалі вашу свядомасць, але, спадзяюся, вы разумееце, што для нас гэта адзіны спосаб не рызыкаваць, знаходзячыся разам з вамі.
Вы не пашкадуеце на мяне **пару хвілін**, каб паразмаўляць пра Магнета?


Што вы маеце на ўвазе пад **«Размовай»**, Ф'юры? Інтэлектуальную размову аб тым, як можна вырашыць гэтую праблему, ці **допыт з прыхільнасцю**?


Калі шчыра, то, хутчэй, **астатняе**.


Паспрабуйце паглядзець на ўсё з нашага пункту гледжання... Адзін джэнтэльмен заяўляе, што ён знішчыў **сусветную пагрозу**, а потым гэтая сусветная пагроза вяртаецца і наносіць нам **удар у спіну**.
Джэнтэльмен кажа, што нам больш няма аб чым **хвалявацца**. А потым яго **старыя знаёмыя** прыходзіць і знішчае нявінных людзей.


Пасля гэтага мы пачынаем падазраваць, што гэты джэнтэльмен - зусім **не джэнтэльмен**. І, магчыма, штоён з самага пачатку быў на баку з гэтай сусветнай пагрозай.
Вы разумееце, **аб чым** я кажу?


Гэта самае **смешнае**, што я толькі чуў, і вы выдатна гэта ведаеце, Ф'юры.
Я спрабаваў рэабілітыраваць Магнета, бо, калі б аддаў яго «Абароне», вынес бы яму тым самым **смяротнае пакаранне**.




**Тры тысячы** людзей зараз былі бы жывы, калі б вы не хлусілі нам наконт Магнета, прафесар.

Нас тут наогул не было бы, а вашыя Людзі-ікс знаходзіліся б зараз у бяспецы. Няўжо вы не адчуваеце віну?

Чаго вам ад мяне трэба, генерал?

**Адрасы** Магнета і Людзей-ікс.







Не хвалюйцеся, прафесар! «Абарона» **паводзіць** са мной лепшым чынам, чым я чакаў. Але я ня ведаю, колькі я змагу яшчэ падманваць іх тэлепатаў.
Зусім нядоўга, містар Вагнэр. Магчыма, вы валодаеце спецыяльным навыкам абароны ад допытаў, які вы атрымалі ў праграме «Зброя Ікс», але ўсё ж такі вы не **Расамаха**.
CXF P-4517210


Начны змей напэўна ведае, дзе хаваюцца Людзі-ікс. Ва ўсялякім разе ён накіроўваўся туды.
Калі вы скажаце мне зараз, дзе хаваюцца вашыя сябры, я даю вам слова зрабіць усё магчымае, каб абараніць іх.


Вы ведаеце, што я заўсёды трымаю сваё слова. Я раблю ўсё гэта толькі для таго, каб схапіць Магнета.
Гэта ня важна, генерал. Я не **здраджу** сваім вучням.


Яны - наша апошняя **надзея**.


Як хочаш, сябра.


ЧЫКАГА:
Праз 20 секунд пасля таго, як хтосьці прыгразіў Расамахе ружжом.
Я жа казаў вам адысці ў бок, пакуль ніхто не папакутаваў.


Ты жа не зрабіў гэтага?


Не, зрабіў.
Колькі чалавек ты знішчыў, Расамаха?
Знішчыў? Я нікога **не забіваў**, Звер. Я ведаю правіла, што немагчыма выкарыстоўваць свае здольнасці супраць гэтых **выдатных** нявінных людзей.


Добра, паспрабую спытаць інач... Колькі салдат было накіравана ў шпіталь?


Ну, ня больш **пяцідзесяці** ці **шасцідзесяці**...
**Выдатна**, мы з усіх сіл імкнемся даказаць свету, што мы на баку людзей, а Расамаха адлупцаваў пяцьдзесят ці шэсцьдзесят прыслужнікаў народа?
Чаму б нам не адаслаць Братэрству Мутантаў у падарунак набор бейсбольных кепак і не забыць пра іх існаванне?



У гэтым праблема ўсіх **дзікіх жывёлін**, Звер. Ты пускаеш іх у свой дом і чакаеш, пакуль яны табе што-небудзь падрабаюць.
Джына, мабыць, табе лепш стрымацца? Ведаю, што табе было нялёгка, маладушка, але ўсе твае намёкі на тое, што я забіў Цыклопа, усім ужо надакучылі.




Мне не проста «было нялёгка», Расамаха! Я сутыкнулася з **сілай Фенікса**. І зараз ён унутры мяне, і гэта дазваляе мне пазбавіцца ад тваёй псіхалагічнай абароны.




Я ведаю, што ты - нядрэнны чалавек, Логан... Але ты асқаліўся пасля доўгіх гадоў катаванняў і зневажэнняў.
У мінулым ты заўсёды вырашаў свае праблемы за кошт гвалта. Што жа **дзіўнага** ў тым, калі ты вырашыў **знішчыць суперніка**, каб дамагчыся маёй **увагі**?




Ня трэба так перабольшваць, малая.
IZOD
Суняміцеся! Мабыць хопіць? Мы павінны думаць аб тым, як разабрацца з Магнета і паліцыяй, а не **вырашаць рахункі** адзін з адным!




Яшчэ пабачым.


Божа мой!
=aaaa=




Ня смейся з мяне, Кіці. Хоць я і вялікага росту, гэта не значыць, што я не магу **спужацца**.




Я магу **зразумець** цябе, Калос.


О божа!
УСЕ НА ПАДЛОГУ! ХУТЧЭЙ!


Паслухайце, вам няма чаго баяцца. На самой справе мяне тут няма.


Я не магу параніць вас, так сама, як і вы мяне, мой дарагі Бобі. Я - усяго толькі **галаграма**. Няўжо вы ня бачыце?


Як ты знайшоў нас, Магнета? Як ты даведаўся, дзе мы хаваемся?
Калі шчыра, я не знайшоў вас, Калос. Я проста папрасіў галоўнага **генія** Братэрства стварыць галаграму, каб выйсці на кантакт з вамі.


Сумняваюся, што вы ўжо сустракаліся з **Вынаходнікам**, алё йн самы незвычайны мутант з усіх, каго я бачыў.
Уявіце, што вы можаце стварыць усё, аб чым толькі ён падумае. Уявіце, што гэты малады чалавек можа стварыць усё, аб чым марыць **Майстар Магнетызму**.


**Смяротную зброю?**


Менавіта **так**, мой хлопчык.
Але я прыйшоў не для таго, каб **пагражаць** вам, Людзі-ікс. Я тут, каб аказаць вам **ветласць**, якую я толькі што аказаў **сваім** наравістым **дзецям**.


Якую дакладна?


Апошні шанс **далучыцца** да **пераможніка** і заставіць вашыя праблемы ў мінулым.
Як я ўжо сказаў, між намі былі непаразуменні. Але ў гэтым быў вінаваты Чарльз і яго падступныя **маніпуляцыі** над вашай свядомасцю.
Як яшчэ можна патлумачыць з'яўленне каманды мутантаў, **абараняючых** свет, які **баіцца** і **ненавідзіць** іх?


Усе спробы знайсці Цытадэль ці высвятліць, дзе мы нанясем новы ўдар, **выклікаюць смех**. Вы ведаеце, што здарылася, калі вы спрабавалі выхваліцца перад людзьмі.


Вы ведаеце, што здарылася, калі адзін чалавек паверыў у магчымасць **мірнай інтэграцыі**.


Ім не патрэбны вашыя ўрокі. Ім не цікава, што вы можаце прапанаваць. Яны бачаць у вас пагрозу і не супакоюцца, пакуль не пазбавяцца ад вас.


І што ты нам прапануеш? Перайсці на іншы бок і пачаць знішчаць людзей?
Вы таксама патрапілі на мой падман. Забойствы і рабаванне толькі адцягвалі агульную ўвагу ў той час, як мы распрацоўвалі **асноўны план**.


Цяпер свет падобны на вішню, якую мы гатовы сарваць. І ўсё дзякуючы новай **прыладзе** Вынаходніка.
Я прапаную вам далучыцца да мяне, пакуль мы не пачалі дзейнічаць. Я не хачу, каб вы былі **пахаваны жыўцоў** разам з астатнімі **малпамі**, якія паўсталі ў нас на шляху.


Магнета, браток, я лічу, што выкажу агульную думку...


Калі ласка, Расамаха. Табе ня трэба нічога казаць. Проста **скарыстайся выпадкам** і **падумай** над маёй **прапановай**, стары сябар.


У вас - **сем дзён**.




To Be Continued...

# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

www.patreon.com/comicsby

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

### Афіцыйны патрон

**3 $**

ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз перaклада **на 1 месяц раней**, чым падпішчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

### Патрон з падпіскай прэміум

**5 $**

ЗА МЕСЯЦ

ДАЛУЧЫЦЦА

**Патрон з падпіскай прэміум** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміум.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.